

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 42 (1453) 16 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.


## Беларуская грамадскасць выступіла з адмысловым зваротам адносна стану беларускай мовы ў краіне

беларускамоўны

ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА – 2019

Мы, прадстаўнікі беларускай грамадскасці, заклапочаны тым, што беларуская мова не мае спрыяльных умоваў для існавання і развіцця ў Беларусі.

Паводле Канстытуцыі Беларусі, абедзве мовы - беларуская і расейская - ёсць дзяржаўнымі, але ўлады ўвесь час цураюцца беларускай мовы. Яна амаль не ўжываецца на афіцыйным узроўні, практычна ўсе законы ў Беларусі выдаюцца выключна па-расейску. Паводле апошніх даследаванняў, 48 % беларусаў лічаць беларускую мову роднай, але доступ да адукацыі на беларускай мове застаецца абмежаваны: толькі 13 % вучняў навучаюцца па-беларуску; у краіне няма ніводнага ўніверсітэта з беларускай мовай выкладання. Мова 85 % кнігаў, што выдаецца ў Беларусі штогод, - расейская; па-беларуску выходзіць толькі 9,5 % кніг.

Паколькі ў апошнія гады колькасць ініцыятываў, скіраваных на папулярызацыю беларускай мовы, няспынна расце, надышоў час, каб беларуская нацыя напоўніцу карысталася ўласнымі правамі на самавыяўленне і ўдзел у культурным жыцці, у тым ліку і праз сваю мову.

На неабходнасць падтрымаць беларускую мову ў Беларусі звяртае ўвагу міжнародная супольнасць. Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭНу на 85-м штогадовым Кангрэсе звярнулася з заклікам да ўладаў Беларусі паважаць, абараняць і дапільноўваць правы ўсіх беларускамоўных і дзеяць згодна з Артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які заканадаўча замацаваў статус беларускай мовы як дзяржаўнай. Таксама Міжнародны ПЭН звяртаецца да карпарацыі "Google" ды іншых інтэрнэтплатформаў, каб яны прызналі беларускую мову і забяспечылі беларусам магчымасць у поўнай меры карыстацца ёй на гэтых пляцоўках.

Беларускай мове мусяць быць створаныя спрыяльныя ўмовы для развіцця і роўныя шанцы ў параўнанні з расейскай мовай.

4 кастрычніка ў Беларусі пачаўся чарговы перапіс насельніцтва. Звесткі перапісу, паводле Закону "Аб перапісе насельніцтва", будуць уплываць на фармаванне дзяржаўнай палітыкі ў розных сферах. Ад колькасці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову роднай, залежыць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам "беларуская" вы станоўча паўплываеце на яе.

Мы перакананыя, што родная мова - не абавязкова "першая засвоеная ў дзяцінстве". Родная мова - гэта эмоцыі ды пачуцці, гэта тая мова, якую вы адчуваеце роднай, мовай сваіх дзядоў. Незалежна ад таго, якой мовай вы карыстаецеся ў штодзённым жыцці, беларуская мова нас аб'ядноўвае і робіць унікальнымі.

Мы заклікаем усіх, хто з нейкіх прычынаў можа / хацеў бы назваць беларускую мову роднай, абраць яе роднай падчас перапісу насельніцтва. Маленькі ўчынак - глабальнае значэнне.

Мы прапануем арганізацыям грамадзянскай супольнасці і публічным асобам далучацца да гэтага звароту і пашыраць яго ў сваіх колах. Гісторыю робім мы, і гэта не складана. Дастаткова выявіць волю і заявіць пра сваё - роднае.

"Арт Сядзіба".
Беларускі ПЭН-цэнтр.
ЗБС "Бацькаўшчына".
Тэлеканал "Белсат".
Symbal.by.
Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Калі вы як публічная асоба ці ваша арганізацыя падзяляеце гэты зварот, калі ласка, напішыце нам пра гэта на адрас pierapis2019@gmail.com з пазнакай "подпіс пад зваротам" і мы дадамо ваш подпіс.

Калі вы хочаце падпісаць зварот як арганізацыя, напішыце, калі ласка, поўную яе назву.

Калі вы хочаце падпісаць зварот як публічная асоба, то дашліце, калі ласка, поўнае імя і прозвішча і таксама сваю сферу дзейнасці.

Пад зваротам ужо падпісаліся:

Арганізацыі:
1. ПУ Беларускі дакументацыйны цэнтр;
2. ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў";
3. Грамадскае аб'яднанне "Цэнтр сацыяльных інавацый"
4. Міжнародная грамадская арганізацыя "Euro-Belarus;
5. Лятучы ўніверсітэт;
6. Крама-музей "Б/Уржуазные ценности";
7. Цэнтр еўрапейскай трансфармацыі;
8. Центр правовой трансформации;
9. Офіс па правах людзей з інваліднасцю;
10. Экспертна-прававое таварыства "Ініцыятыва FORB";
11. Саюз беларускіх пісьменнікаў;
12. Беларускі дом правоў чалавека;
13. Дабрачынная арганізацыя "Беларусы ў Чыкага";
14. Выдавецтва "Коска";
15. Беларускі Хельсінскі Камітэт.
16. Асамблея НДА
і шэраг прыватных асобаў.

*Крыніца: budzma.by.*










## Дарагія сябры "Нашага слова"!

У кастрычніку мы атрымалі невялікую прыбаўку ў падпісцы. Але прыбаўка вельмі нязначная, пры тым, што Магілёўская вобласць сумела і цяпер упасці. Мы страцілі чытачоў папяровай газеты, а ці набылі чытачоў сайта, то яшчэ пытанне. Тым не менш, газета прадаўжае выходзіць, і ніякіх песняў жальбы не будзе. Мы былі, ёсць і мусім быць. А сёння пачынаем барацьбу за падпісчыка на 2020 год.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 8 | 12 |
| Бяроза р.в. | 8 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 7 | 7 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | 2 | 2 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 2 | 2 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 5 | 4 |
| Пружаны р.в. | 2 | 4 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **38** | **43** |

| | | |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 17 | 19 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 5 | 5 |
| Гарадок р.в. | - | - |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | - | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 18 | 18 |
| Орша гор. | 6 | 5 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 4 | 4 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 5 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **77** | **78** |

| | | |
|---|---|---|
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 5 | 3 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 5 | 6 |
| Дзяржынск р.в. | 5 | 7 |
| Клецк р.в. | 1 | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 2 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск | 6 | 6 |
| Любань р.в. | 2 | 1 |
| Менск гор. | 147 | 168 |
| Менск РВПС | 10 | 11 |
| Маладзечна гор. | 5 | 8 |
| Мядзель р.в. | 3 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 7 | 7 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 4 |
| Слуцк гор. | 4 | 5 |
| Салігорск гор. | 3 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 3 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго:** | **221** | **248** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 1 | 2 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 13 | 15 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 6 | 11 |
| Жлобін гор. | - | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | 1 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **33** | **41** |

| | | |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 3 | 3 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 24 | 28 |
| Гародня РВПС | 14 | 14 |
| Дзятлава р.в. | 5 | 7 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 2 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 1 | 1 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 1 | 1 |
| Астравец р.в. | 1 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 7 | 7 |
| Слонім гор. | 8 | 7 |
| Свіслач р.в. | 5 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 7 | 8 |
| **Усяго:** | **88** | **94** |

| | | |
|---|---|---|
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 21 | 17 |
| Асіповічы гор. | 7 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго** | **41** | **36** |
| **Усяго на краіне:** | **498** | **540** |

№ 42 (1453) 16 КАСТРЫЧНІКА 2019 г. Наша слова

# Дзеля памяці пра Васіля Быкава

Старшыні праўлення
Саюза пісьменнікаў Беларусі
Чаргінцу Мікалаю Іванавічу

Шаноўны Мікалай Іванавіч! 19 чэрвеня 2019 года Віцебская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сумесна з Віцебскай абласной бібліятэкай правялі творчы вечар, прысвечаны 95-ай гадавіне з дня нараджэння Васіля Уладзіміравіча Быкава. На вечары ўсе прысутныя з вялікім болем і шкадаваннем канстатавалі, што ў Віцебску да гэтага часу не ўвекавечана памяць нашага славутага земляка. Ніводная культурна-асветная ўстанова, вуліца ці плошча не носіць імя Быкава. Няма і помніка Васілю Быкаву, ліквідаваны абласны Літаратурны музей з экспазіцыямі, прысвечанымі знакамітым землякам.

Нашы адпаведныя прапановы па ўвекавечанні памяці В.У. Быкава не знаходзяць, на жаль, падтрымкі ў кіраўнікоў горада Віцебска і вобласці. У сувязі з гэтым мы просім Вас - вядомага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, аўтарытэтнага кіраўніка Саюза пісьменнікаў Беларусі - выступіць з хадайніцтвам перад Віцебскім абласным выканаўчым камітэтам аб прысваенні імя Васіля Уладзіміравіча Быкава Віцебскай абласной бібліятэцы. Практычна толькі Вы адзін засталіся з пісьменнікаў, якія добра ведалі і цанілі Васіля Быкава, доўгія гады сябравалі з ім.

Да Вашага ведама заўважым, што прысваенне Віцебскай абласной бібліятэцы імя В.У. Быкава, якая цяпер носіць імя У.І. Леніна, ні ў якім разе не зменшыць памяць пра Леніна, бо ў Віцебску ёсць помнік Леніну, плошча імя Леніна, цэнтральная вуліца горада таксама носіць імя Леніна, а яшчэ ёсць гарадская паліклініка імя Леніна.

Мы ведаем, паважаны Мікалай Іванавіч, што Вашы ініцыятывы і прапановы ў розных напрамках грамадскага і культурнага жыцця краіны ўспрымаюцца з даверам і ўвагай кіраўнікамі дзяржаўных органаў улады. Таму мы маем надзею на станоўчае вырашэнне пытання аб прысваенні Віцебскай абласной бібліятэцы імя Васіля Уладзіміравіча Быкава.

Старшыня рады
Віцебскай абласной арганізацыі
ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Ю.М. Бабіч.
01.07.2019. Віцебск.

ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ"
Вул. Фрунзэ, 5, пак. 200, 220034, г. Мінск,
Тэл. / факс: (017) 392 59 02 (392 59 03)
Р/рахунак BY70AKBB30150000024685100000
філ. 510 «ААБ Беларусбанк» г. Мінска,
БИК AKBBBY21510
УНП 805000036




ОБЩЕСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ "СОЮЗ ПИСАТЕЛЕЙ БЕЛАРУСИ"
Ул. Фрунзе, 5, комн. 200, 220034, г. Минск,
Тел./факс: (017) 392 59 02 (392 59 03)
Р/счет BY70AKBB30150000024685100000
фил. 510 «АСБ Беларусбанк» г. Минска,
БИК AKBBBY21510
УНП 805000036

08.07.2019 № 01-10/199
на № ______ ад ______

Старшыні рады
Віцебскай абласной арганізацыі
ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
Бабічу Ю. М.

Паважаны Юрый Міхайлавіч!

Атрымалі Ваш ліст і раздзяляем занепакоенасць Вашай арганізацыі аб адсутнасці мемарыялізацыі імені Васіля Быкава ў Віцебску.

На адрас старшыні Віцебскага аблвыканкама М. М. Шарстнёва Саюз пісьменнікаў Беларусі накіраваў ліст. У ім сказана пра тое, што наша арганізацыя з 2001 года вядзе актыўную работу па ўшанаванні памяці Героя Сацыялістычнай працы, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР і БССР, народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Шэраг нашых прапаноў браўся пад ўвагу асабіста Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам. Як, напрыклад, адкрыццё філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры на летніку пісьменніка ў г. п. Ждановічы.

На дадзеным этапе пісьменніцкая арганізацыя звяртае ўвагу ўладаў на неабходнасць назвы вуліцы ў Менску імем Васіля Быкава, устаноўкі яму помніку. Дарэчы, варыянт помніка таксама падрыхтаваны.

У лісце да М. М. Шарстнёва мы выказваем нашу агульную пазіцыю аб неабходнасці і ў Віцебску ўславіць імя выбітнага літаратара, чалавека насамрэч заслужанага і паважанага. Як, дарэчы, звяртаем увагу і на неправамернае закрыццё Літаратурнага музея з экспазіцыямі, прысвечанымі знакамітым землякам. Гэта наша гісторыя, гонар і слава.

Спадзяёмся, што наш голас будзе пачуты і да святкавання пачэснай даты - 75-годдзя Вялікай Перамогі - імя Васіля Быкава загучыць больш значна у Віцебску.

Дзякуй Вам за Ваша шчырае стаўленне да захавання каштоўнасцяў важных для ўсіх нас беларусаў.

Старшыня ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі" М.І. Чаргінец.

*Да 30-годдзя ТБМ*

# "Да літаратурных герояў ішоў па сэрцы"

*"Выдатны мастак - гэта вялікі і дзіўна прыгожы свет"*,-
**В. Карамазаў.**

9 кастрычніка на сядзібе ТБМ адбылася сустрэча з адным з лепшых беларускіх празаікаў - Віктарам Філімонавічам Карамазавым. Летам творца адзначыў 85-гадовы юбілей, а зараз змог падзяліцца сваімі апошнімі здабыткамі і думкамі.



Чытачы прыйшлі на сустрэчу з масцітым літаратарам з яго выданнямі 80 -90- тых гадоў, з чырвоным кнігазбораўскім томам сучаснага класіка. Усе былі ўражаны, убачыўшы бадзёрага духам і душэўна багатага творцу, які крануў сваім цёплым позіркам і мудрымі развагамі. Прагучалі ўрыўкі з кніг: "Краса і воля", "З вясной у адным вагоне", "Антон".

Больш за дзве гадзіны працягвалася сустрэча на сядзібе ТБМ з Віктарам Карамазавым і ад кожнай новай жыццёвай гісторыі ў слухачоў захоплівала дух.

Тэбээмаўцы даведаліся, як беспрытульны хлопец ездзіў на даху цягніка і ратаваўся ад голаду ў ваенны час, калі дзеці хавалі дзяцей, стаялі гарой адзін за аднаго. Бацька знайшоў яго ў прытулку на ваенным заводзе пад Ульянаўскам. Філімон Карамазаў быў настаўнікам, выкладаў беларускую мову і літаратуру, у 30-тыя гады ён вучыўся ў аспірантуры ў Менску, але вучобу вымушаны быў кінуць. У 1937 годзе ён выехаў у Крычаў, і бацькі выкладалі ў Крычаўскай школе.

Дух падарожжаў, абуджаны ў маленстве, вадзіў яго па лясах Магілёўшчыны, дзе замацавалася яго сяброўства з леснікамі і вяліся назіранні за прыродай. Будучы пісьменнік з плытагонамі плаваў па Сожы, у ранніх апавяданнях апісваў сваё захапленне прыродай і гісторыю кахання на плытах. Душа вандроўніка прыкіпела да вёскі Лімень, да роднага лесу, рыб і звяроў, канторы з леснікамі, вальера



з аленямі.

- Усе героі аповесцяў і раманаў - леснікі, паляўнічыя і плытагоны - былі маімі жывымі сябрамі. Я ішоў да іх з любоўю, - засведчыў аўтар.

А потым сцяжынка вывела пісьменніка на мастакоў-пейзажыстаў. Яму давялося падарожнічаць па мясцінах Вітольда Бялыніцкага-Бірулі і іншых жывапісцаў. Захапленне жывапісам жыло ў яго душы з маленства, заўсёды з сабой быў нататнічак з алоўкам.

Замежныя камандыроўкі, паездкі ў Парыж, на Сейшэльскія астравы, Мальдзівы і на Маўрыкій прынеслі новыя ўражанні і былі плённымі.

У сваіх раманах пісьменнік шукаў адказы на глыбокія пытанні. Яго цікавіў духоўны стрыжань мастака, пошукі праўды ў мастацтве. Даследчыка хвалявалі няпростыя пытанні:

Як адважыўся хворы, часткова паралізаваны Бялыніцкі - Біруля паехаць у лес, на лецішча "Чайка", каб там працаваць? Як знайшоў Гаўрыіл Вашчанка правобраз для напісання партрэта Кірылы Тураўскага, калі выконваў ілюстрацыі для кніг? Чаму выдатны рускі жывапісец Мікалай Неўраў, які пасяліўся ў беларускай вёсцы Лыскаўшычыне, каб шукаць фактуру для партрэтаў герояў, не змог знайсці сапраўдных прататыпаў у асяродзі парабкаў, не вытрымаў халопскага духу і застрэліўся? Чаму Фердынанд Рушчыц пасля пераезду ў Варшаву, згубіўшы нацыянальнае асяродзе, якое сілкавала яго творчасць, адчуў дэпрэсію і закінуў на некаторы час пэндзлі?

На жаль, ужо даўно дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" не друкуе прозу аднаго з найлепшых прадстаўнікоў філалагічнага пакалення.У апошнія гады кнігі даводзілася выдаваць за свае грошы, за сродкі саміх мастакоў і пры падтрымцы СБП.

На сустрэчы прысутнічала дачка пісьменніка Людміла Віктараўна, якая выкладае беларускую мову і літаратуру ў школе ў Менску і заахвочвае сваіх вучняў да чытання глыбокіх мастацкіх твораў.

Пажаданні здароўя і даўгалецця выказаў свайму сябру мастак Віктар Кірылавіч Барабанцаў. Ад імя сяброў ТБМ шаноўнаму госцю падзякаваў старшыня Менскай гарадской арганізацыі Аляксандр Давідовіч.



*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*





# Слова да кандыдатаў у дэпутаты 8-га склікання Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Выбары ў Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь прызначаны на 17 лістапада 2019 года, г.зн. раней да заканчэння тэрміну…? Грамадства не без прычыны моцна ўзрушана ўсталяванай практыкай правядзення выбараў у гэты заканадаўчы орган. Яны праводзяцца без выбараў, а шляхам прызначэння кандыдатаў у дэпутаты, прычым ва ўсім паслухмяных толькі ўладам, а не тым, хто іх выбірае. На вялікі жаль, такая заганная практыка вельмі ўтрывалілася ў нашым грамадскім жыцці. Далей нiяк нельга мірыцца з ёю. Таму мы і вырашылі паразважаць з тымі, хто пажадаў трапіць у гэты заканадаўчы орган, узяць на сябе такія адказныя перад народам абавязкі.

Кожны з вас, шаноўныя будучыя дэпутаты, павінны глыбока ўсведамляць, што чарговыя выбары ў Нацыянальны сход праходзяць у незвычайна складаны, нялёгкі для нас час, калі пад сур'ёзнай пагрозай знаходзіцца дзяржаўны суверэнітэт краіны, які ў нас так і не стаў рэальным. Невыпадкова з боку ўладаў выбарчая кампанія і праходзіць у абсалютным маўчанні пра ўсё тое ганебнае, што адбылося з нашым нацыянальным жыццём за чвэртку стагоддзя функцыянавання прэзідэнцкай сістэмы нязменнага кіравання ім адной і той жа асобай, што, як сведчыць сусветны досвед, характэрна толькі краінам, дзе непадзельна пануе таталітарызм. Таму і зразумела, чаму на самым высокім дзяржаўным узроўні забяспечваецца поўны байкот гэтай "гістарычнай" даты (чвэртку стагоддзя?) - дваццаціпяцігоддзе існавання прэзідэнцкай вертыкалі, каб толькі народ не задумаўся, чаму мы за такі працяглы час панеслі нечуваныя каласальныя страты ў сваёй этнакультурнай самабытнасці, дасягнулі мяжы поўнай беларускамоўнай анямеласці народа… . Так і хочацца запытаць усіх рангаў дзяржаўных дзеячаў, дэпутатаў, кіраўнікоў навуковых, вышэйшых навучальных устаноў, творчых арганізацый, асабліва пісьменніцкіх, палітычных партый, нацыянальных рухаў: "Што ж вы маўчыце ў гэтую страшэнную для нашай святой Бацькаўшчыны часіну?! Няўжо Вам не баліць, што паводле свайго культурна-моўнага жыцця яна ўжо не Беларусь, а, пад вялікім прымусам адарванага ад народу чыноўніцкага апарату, становіцца часткай Расіі, бясправным, марыянетачным квазісуб'ектам так званай Саюзнай дзяржавы?! Усё гэта звышалагічна, неадэкватна цывілізаваным нормам і гістарычнай практыцы жыццядзейнасці цывілізаваных нацый. У нас склалася цвёрдае перакананне, што адказныя за лёс беларускага народа высокае чыноўніцтва, падначаленыя ім ідэолагі, даволі шырокія колы інтэлігенцыі цалкам пагадзіліся са стратай беларускім народам сваёй этнакультурнай адметнасці і пераходам на жыццё згодна з рускімі культурна-моўнымі стандартамі, што кладзе канец яго самабытнаму жыццю, пераўтварае ў сурагат рускай нацыі.

Да таго ж яшчэ Прэзідэнту і Ураду так і не ўдалося больш чым за чвэртку стагоддзя існавання ў найвышэйшай ступені сімвалічнай Рэспублікі Беларусь забяспечыць не на словах, а на справах "трывалую стабільнасць" у эканамічным, сацыяльным развіцці нацыі. Беларусь адзіная на постсавецкай прасторы краіна, дзе ні рубля не выплацілі нахабна абакрадзеным дзяржаваю ўкладчыкам ашчадных касаў. Да сённяшняга дня публічна не абнародавана навукова абгрунтаваная эканамічная мадэль развіцця краіны. Ідзе пагалоўнае матэрыяльнае і духоўнае збядненне людзей, за выняткам толькі пэўных катэгорый дзяржаўных апаратчыкаў, высокіх чыноўнікаў сілавых міністэрстваў і ведамстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, некалькіх дзясяткаў паспяховых не з ласкі ўладаў прадпрымальнікаў. Такая палітыка выклікае заканамернае незадавальненне беларускага народа.

Заўважым, падобнае адбываецца, нягледзячы на тое, што ад моманту ўтварэння Рэспублікі Беларусь яе дзяржаўная машына так шмат увагі надае выкананню сваёй сацыяльна-эканамічнай функцыі, баючыся, хаця б не дапусціць татальнай галечы народа. Галоўны ж клопат дзяржавы - надзейна ўтрымліваць уладу ў руках тых, у каго яна больш за чвэртку стагоддзя стабільна знаходзіцца. А вось з забеспячэннем жаданага эканамічнага і тэхналагічнага росту, паляпшэннем матэрыяльнага дабрабыту народа праблем не змяншаецца. Мы цвёрда ўпэўнены ў тым, што галоўнай прычынай усіх нашых бедаў з'яўляецца свядомае ігнараванне дзяржавай такой архіважнай ва ўсе часы - і асабліва з паглыбленнем працэсаў сусветнай глабалізацыі - функцыі, як нацыястваральная, ў аснове якой ляжаць культура і мова тытульнага народа. Пры сучаснай ступені абрусення яму ні ў чым не дасягнуць прагрэсу, не быць надзейным абаронцам Бацькаўшчыны.

Этнічная мова - душа народа. Без роднай мовы, роднай песні, адукацыі на ёй народ становіцца нацыянальна-пасіўным ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. Беларусаў свядома стагоддзямі трымалі і трымаюць у такім кабальным стане. Шматлікімі дзяржаўнымі інстытуцыямі прапагандуецца шкодная ідэалогія, што беларусы нязdатныя на вялікія здзяйсненні, у тым ліку і ў духоўнай сферы, на што ўжо асабліва не рэагуе і само грамадства. Займацца ж нацыятворнай функцыяй палітычнаму кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь трэба з такой вялізнай адказнасцю, як аніводнай з іншых створаных на постсавецкай прасторы дзяржаў, бо на час распаду СССР беларускі народ па віне партыйных і савецкіх органаў быў найбольш зрусіфікаваным, этнічна абяскроўленым. У такой экстрэмальнай сітуацыі роля Прэзідэнта і Урада лёсавызначальная ў стварэнні неабходных умоў для самабытнага этнакультурнага развіцця сваёй краіны. Прэзідэнцкая ж вертыкаль тут ні ў чым не дапамагла і не збіраецца дапамагаць тытульнай нацыі. І самае страшнае, недаравальнае - не забяспечыла яе роднай мове статусу рэальна дзяржаўнай. Адсюль усе нашыя бясконцыя беды: рэзкае зніжэнне нацыянальнай самасвядомасці, нечуваная дагэтуль дэградацыя беларускай этнічнай ідэнтычнасці, паталагічны нацыянальны нігілізм, які так бязмерна распаўсюдзіўся сярод дзяржаўных чыноўнікаў, інтэлектуальнай эліты, якія сталі зусім няздольнымі займацца так неабходнай нашаму народу нацыятворнай дзейнасцю. Зараз мы з-за сур'ёзных хібаў дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, куды менш падобныя на адмысловую нацыю, чым чвэртку стагоддзя таму. Беларусы на сваёй роднай зямлі практычна цалкам апынуліся па-за ўласнай культурна-моўнай нівай. Яны сталі прыгоннымі аратымі і сейбітамі на чужым ім рускім культурна-моўным полі.

Страшэнна непакоіць, што на такое глабальнае этнічнае адміранне беларусаў не адгукнуліся дзейныя дэпутаты, сярод якіх так багата адукаваных, умудроных жыццёвым досведам асобаў. Як жа хочацца беларусам пачуць ад сваіх абраннікаў адказы на пытанне, што трэба рабіць, каб не загінуць у рускамоўнай твані!

Будучыя пакаленні навукоўцаў, асвятляючы нашае сучаснае архітрывожнае, дарэшты зруйнаванае этнакультурнае жыццё і не знойдуць сярод дэпутатаў другой паловы 1990-х - двух першых дзесяцігоддзяў XXI ст. аніводнага, хто за час працы ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь навучыўся размаўляць па-беларуску, выказаў гнеўны пратэст супраць дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. І куды толькі падзеліся дэпутаты, падобныя на пасла вальнага Сойма Рэчы Паспалітай ад Наваградскага ваяводства Тадэвуша Рэйтана, які жыццё сваё ахвяроўваў, каб толькі палітычны суб'ект Рэчы Паспалітай Вялікае Княства Літоўскае не быў уключаны ў час яе першага падзелу ў 1772 годзе ў склад Расійскай імперыі? Адказаць на такое пытанне зусім не складана: абсалютную бальшыню дэпутатаў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь усіх скліканняў ніколькі не хвалюе самая небяспечнае, самая агрэсіўная ў нашай айчыннай гісторыі палітыка русіфікацыі. З ёй яны звыкліся і нічога кепскага, заганнага не бачаць у сучаснай дзяржаўнай антыбеларускай культурна-моўнай палітыцы. Унікальная з'ява для ўсяго цывілізаванага свету.

Насуперак элементарнай логіцы, здароваму сэнсу палітыкі, якія ўлетку 1994 года прыйшлі да ўлады, спынілі досыць эфектыўную на пачатку 1990-х гадоў беларусізацыю і пачалі суцяшаць народ усялякімі надуманымі байкамі нібыта руская мова - гэта спрадвеку яго родная мова. За такую несусветную хлусню трэба было б строга караць, не звяртаючы ўвагі на пасады. Не каралі, што толькі пагаршала сітуацыю і давяла сучасных беларусаў да этнічнага вымірання.

Сусветны досвед пераканаўча сведчыць: са стратай роднай мовы немінуча гіне яе прыродны носьбіт - нацыя, а разам з ёю і ўсё астатняе, у тым ліку і рэальны дзяржаўны суверэнітэт. Падтанцоўваючы варожай, небяспечнай ідэалогіі "русского мира", нашы гора-палітыкі пачалі зацята ўбіваць у галовы беларусаў і яшчэ адну несусветную, крайне небяспечную хлусню, што яны - адзіны з рускім народ. Палітыкамі, дзяржаўнымі ідэолагамі не дапускалася аніякага публічнага аспрэчвання гэтых афіцыйных фальсіфікацый. У такой абсурднай сітуацыі спынілася на дзяржаўным узроўні рэгуляванне моўнага працэсу. За апошнюю чвэрць стагоддзя афіцыйнае двухмоўе прывяло да катастрафічнага стану беларускую мову ў Рэспубліцы Беларусь. І калі ўжо нашае чынавенства зразумее, што толькі адзіная дзяржаўная беларуская мова ў краіне - галоўны гарант забеспячэння яе этнакультурнай самабытнасці, рэальнага суверэнітэту?

З усёй адказнасцю сцвярджаем, што стратэгічнай, недаравальнай памылкай Прэзідэнта, як пераканаўча засведчыў час, быў яго асабісты выбар для абслугоўвання ўсіх сфераў афіцыйнага жыцця толькі адной рускай мовы пры канстытуцыйным двухмоўі. Усю пражытую чвэртку стагоддзя і сёння толькі гэтай мовай і карыстаюцца ён і падначаленае яму чынавенства, з якога бяруць прыклад усе катэгорыі службоўцаў. Як вынік такой заганнай палітыкі, сучаснае становішча беларускай мовы - аварыйнае, катастрафічнае. Суцяшае, што не бязвыхаднае, калі да выпраўлення яго падысці па-дзяржаўнаму, а не самапасам. Вось таму мы і вырашылі гэтую без перабольшвання нацыянальную трагедыю давесці да розуму, да сэрца тых, хто сёння вылучаецца кандыдатам у дэпутаты Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь восьмага склікання.

На сесіях усіх папярэдніх Нацыянальных сходаў ніколі не ўзнімалася пытанне, як забяспечыць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай не толькі на словах, але і на практыцы. Таму, як станеце дэпутатамі, зрабіце, шаноўныя, так наспелае выключэнне з такой нічым не апраўданай, супярэчнай святым беларускім ідэалам практыкі. Рашуча, настойліва патрабуйце ад высокага палітычнага кіраўніцтва краіны ўвядзення роднай мовы яе тытульнай нацыі ва ўсе сферы афіцыйнага жыцця і ў першую чаргу ў самыя верхнія эшалоны дзяржаўнай улады. Калі ж тут, як і сёння, будзе непадзельна панаваць руская мова, беларуская мова немінуча загіне, а разам з ёю рухнуць у нябыт і сама дзяржава, і сам беларускі народ. Беларусы будуць мець перспектыву толькі ў сапраўднай нацыянальнай дзяржаве, дзе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця вольна пануюць іх родная культура і мова - адзіных законных гаспадароў на гэтай спаласаванай асіміляцыяй дзялянцы еўрапейскай тэрыторыі.

Вялікага Вам поспеху ў выратаванні самага галоўнага, самага дарагога, нічым не заменнага ўнікальнага багацця любай Бацькаўшчыны - яе роднай беларускай мовы! Таму, хто не пажадае, няздольны на такі высакародны нацыянальна-патрыятычны вычын, лепш было б устрымацца ісці ў дэпутаты. Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь патрэбныя не тыя, хто здольны толькі дагаджаць, нізка кланяцца высокаму палітычнаму кіраўніцтву краіны, а сапраўдныя прарабы, архітэктары нацыянальна-культурнага будаўніцтва, самаадданыя змагары за родную беларускую мову, яе шчырыя, актыўныя носьбіты. Мы разам з Вамі помнім, яшчэ не забыліся, калі дэпутаты мінулых скліканняў Нацыянальнага сходу і сённяшняга адседжвалі і адседжваюць свой тэрмін, "як мышы пад венікам". Сваіх абраннікаў людзі не чулі і не бачылі ў віхурах грамадскага жыцця. Яны амаль не мелі зносінаў праз сродкі масавай інфармацыі з народам Беларусі. Беларусы хочуць бачыць і чуць сваіх абраннікаў у сродках масавай інфармацыі, дыскутаваць з Вамі.

Жыць беларускай нацыі ў вяках у роднай мове!

*Прафесары Леанід Лыч,*
*Мікола Савіцкі,*
*29.09.19 г.*

## Візантыйскі перыяд у гісторыі беларускага мураванага дойлідства

*Тэзісы даклада на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі*

Пасля таго, як у канцы X ст. на землях усходніх славян з'явілася хрысціянства, у іх жыцці і асабліва ў жыцці і побыце племянных эліт, перадусім князёў і баяр, адбыліся значныя змены. На тэрыторыі Беларусі з'явілася пісьмовасць, мураванае дойлідства, новыя віды мастацтва: іканапіс, фрэскавы роспіс храмаў і нават жылых будынкаў.

Усё гэта прыйшло з Візантыі і таксама аказала значны ўплыў на ўсе сферы дзейнасці тагачасных жыхароў першай усходнеславянскай дзяржавы, якая мела назву Русь, а пазней, у XI-XII стст., Руская зямля. Створаная князем Алегам у канцы IX ст., гэтая дзяржава пачала распадацца на асобныя княствы ўжо ў канцы XI ст. (Любеч, 1097) і канчаткова знікла з карты Еўропы ў пачатку XII ст.

Пазней гэтую дзяржаву гісторыкі назвалі Кіеўская Русь, а савецкія сталінскія гісторыкі далі ёй назву "Древняя Русь", якая нібыта мела адзіную "древнерусскую народность" і агульную "древнерусскую" архітэктуру. Гэтая міфічная краіна, на іх думку, існавала да 1237-1240 гг., пакуль не прыйшлі войскі хана Батыя і яе не заваявалі.

Савецкія археолагі называлі культурны пласт пры раскопках усходнеславянскіх гарадоў, які існаваў да 1237-1240 гг., "дамангольскім" нават і ў тых гарадах, дзе манголы ніколі не былі. Сталіцай "Древней" Русі савецкія гісторыкі лічылі Кіеў, але глядзелі на яе тэрыторыю з Масквы, таму землі БССР, а таксама Смаленшчыны, называлі як "Западные земли Киевской Руси или Древнерусского государства". Але калі глядзець на Беларусь з Кіева, то гэтыя землі не заходнія, а паўночныя.

Трэба сказаць, што Полацкае княства нядоўга ў часы князя Уладзіміра ўваходзіла ў Кіеўскую дзяржаву, але потым хутка аднавіла сваю незалежнасць і вяла войны з Кіевам у XI і пачатку XII стст.

Цяпер, пасля распаду СССР і існавання асобных дзяржаў на тэрыторыі Усходняй Еўропы, нам трэба канчаткова адмовіцца ад сталінска-савецкай тэрміналогіі, якая пасля 2014 г. стала насіць прыкметы "русского мира" і непрыхаванай агрэсіўнасці з боку некаторых расійскіх гісторыкаў.

Таму мы прапануем назваць першы этап беларускага мураванага дойлідства візантыйскім, які пачаўся з будаўніцтва Полацкай Сафіі ў другой палове XI ст. і доўжыўся да канца XII ст. Найбольшы росквіт гэтага перыяду прыпадае на XII ст., калі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь існавала некалькі самабытных архітэктурных школаў.

Сярод іх полацкая архітэктурная школа, ад якой засталося 10 архітэктурных будынкаў і асабліва Спаса-Праабражэнская царква першай паловы XII ст. з унікальным фрэскавым роспісам і віцебская архітэктурная школа, заснаваная візантыйскім дойлідам. Ад яе засталіся храмы ў Віцебску і Навагардку, а таксама, магчыма, у Слуцку. Таксама вылучаецца Гарадзенская архітэктурная школа, якая мела некалькі храмаў, княжацкі палац, абарончыя сцены ў Гародні і недабудаваны храм у Ваўкавыску. У Тураве ў XII - пачатку XIII стст. існаваў вялікі мураваны храм, пабудаваны кіеўскімі майстрамі. Мураваныя храмы маглі быць таксама ў Пінску і Гомелі, дзе знаходзілі пліткі падлогі і старажытную цэглу (плінфу).

Варта адзначыць, што беларускія навукоўцы не выключаюць дзейнасць на тэрыторыі Беларусі не толькі грэчаскіх, але і балгарскіх майстроў. Канцом гэтага этапу ўмоўна можна назваць 1204 г., калі крыжакі захапілі Канстанцінопаль і Візантыйская імперыя надоўга знікла з мапы свету.

*Алег Трусаў,*
*кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дактарант Інстытута гісторыі НАН Беларусі.*

## Напісанае застанецца

Хачу выказаць думку пра публікацыі ўспамінаў пра Наталю Санько ("Наша слова", травень - чэрвень 2019 г.).

Шкадую, што адкрыла для сябе гэтую неардынарную асобу толькі цяпер. Шматграннасць яе талентаў і зацікаўленняў проста ўражвае: поруч з асноўнай прафесіяй біёлага-эксперыментатара Наталя Санько займалася гістарычнай асветай моладзі, рыхтаваннем выставаў пра знаных суайчыннікаў, удзельнічала ў міжнародных кніжных выставах, рыхтавала цікавыя разнастайныя матэрыялы для беларускага календара "Родны край"... І пры гэтым адыграла вялікую ў ролю ў публікацыі і пашырэнні праўдзівых тэкстаў пра беларускую гісторыю і культуру - тады, калі гэта несла рэальную рызыку.

Перачытаўшы кранальныя радкі пра яе, я падумала: які ўзор адданага высокай ідэі чалавека, які сціпла робіць сваю справу, не чакаючы на ўзнагароду і не разлічваючы на гучнае ўшанаванне! Такія на першы погляд непрыкметныя рупліўцы беларушчыны - грунт і аснова руху Беларусі наперад. У 1970-я, 80-я, 90-я гады ўжо мінулага стагоддзя яны па каліву рабілі свой унёсак у нашу незалежнасць і яе духоўныя падставы.

Сярод такіх годных людзей Наталя Санько. І вельмі важна, што ў друку з'явіліся і таму застануцца ў нашай гістарычнай памяці назаўсёды ўспаміны яе ўдзячных сучаснікаў.

*Аляўціна Вячорка.*

# Да юбілею Алеся Кроя



Сябру агульнанацыянальнай Рады Таварыства беларускай мовы, гарадзенскаму актывісту Алесю Крою споўнілася 60. Сваю працу на грамадскіх пачатках ён прысвячае працы па пашырэнні і захаванні беларускай адукацыі пры вельмі негатыўных варунках яе існавання ў Беларусі. Дзякуючы яго ўкладу, гарадзенскі аддзел адукацыі стварыў пры двух расейскіх школах № 32 і 34 па адным беларускім класе. І штогод фармуюцца, хоць і невялікія, але дзейсныя беларускія класы. Кажа Алесь Крой:

- Ёсць каштоўнасныя прычыны, па якіх бацькі аддаюць сваіх дзяцей. Гэта звычайна невялікая частка беларусаў, якія сапраўды ўяўляюць беларускую гісторыю, ведаюць, адкуль іх род. Але большасць людзей каштоўнасці мовы, гісторыі, культуры сваёй краіны да канца не разумеюць. Ім больш патрэбны нейкія практычныя прычыны. Гэтыя практычныя прычыны мы таксама распрацавалі і даводзім да бацькоў, да адміністрацыі.

Апошні час Алесь Крой прысвяціў шмат працы па мемарыялізацыі памяці акадэміка Яўхіма Карскага. Створаны адмысловы прыпынак у вёсцы Мігова Гарадзенскага раёна, дзе супыняўся акадэмік, стваралася памятны знак, а таксама існуе вуліца, якая носіць яго імя ў ваколіцах.

Гарадзенская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы віншуе юбіляра. З найлепшымі зычэннямі далучаецца і нашае Беларускае Радыё Рацыя і газета "Наша слова".

*Якуб Сушчынскі,*
*Беларускае Радыё Рацыя.*

*Рэха 1939-га*

# Мост і чалавек

Шмат разоў мне даводзілася ездзіць па мосце цераз раку Нёман, які злучае вёскі Правыя і Левыя Масты.

Мост металёвы, але не зварны. Пабудаваны дабротна. Яшчэ ў маленстве, у далёкім 1968 годзе, мне даводзілася назіраць, як падчас вайсковых вучэнняў па ім рухаліся танкі і пры гэтым не нанеслі яму ніякай шкоды.

Згодна з гістарычнымі звесткамі, будаўніцтва моста было закончана ў 1929 г. У той час гэтая тэрыторыя належала да Польшчы. Збудаванне, што меркавалася палепшыць дабрабыт людзей, прынесла і чалавечыя ахвяры. Прычым вельмі дзіўным чынам.

Некалькі гадоў таму назад мне давялося быць у Варшаве ў Інстытуце за дэмакратыю ва Усходняй Еўропе. І там зусім выпадкова аказаўся ў гэты час Чэслаў Сэнюх, наш зямляк. А яшчэ было больш прыемным, што ён выказаў жаданне пазнаёміцца са мною. Чэслаў Сэнюх - знакаміты літаратар, перакладчык, стала жыве ў Варшаве. Падчас нашай гутаркі я даведаўся, што ў свой час бацька яго будаваў вышэй згаданы мост. Нягледзячы на тое, што аповед Чэслава Сэнюха ў некаторых падрабязнасцях не дакладны, ён даволі цікавы і варты ўвагі чытача.

Падчас Першай сусветнай вайны Станіслаў Сэнюх - бацька Чэслава - быў у бежанстве ў Кіеве. Савецкая ўлада, што ўсталявалася падчас рэвалюцыі 1917 года, яму не спадабалася, і дзесьці ў сярэдзіне дваццатых Станіслаў з сям'ёю вярнуўся на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Нелегальна перайшлі мяжу, але ў Баранавічах былі затрыманы тагачаснымі ўладамі, і за гэта Станіслаў Сэнюх панёс турэмнае пакаранне.

Сям'я Сэнюхаў пасялілася ў Любчы ды пачала будаваць уласны дом. Бацька будаваў яго сам. І ўвогуле ён быў майстар на



ўсе рукі. Мог зрабіць не толькі стол, шафу, але нават і гітару.

Сям'і неабходны былі грошы, і таму Станіслаў Ігнатавіч уладкаваўся на будоўлю моста цераз Нёман на гасцінцы з Гародні да Слоніма і з Берасця да Вільні.

Чэслаў нарадзіўся крыху пазней і таму не ведае ўсіх акалічнасцей, звязаных з працаю бацькі па пабудове гэтага аб'екта. Пра тое пазней распавядалі сваякі. Зароблены грошай хапіла, каб дабудаваць дом.

Гісторыя гэта мае свой працяг. У 1939 годзе распачалася Другая сусветная вайна. Германія акупавала цэнтральную Польшчу, а Савецкі Саюз збройна далучыў да сябе Заходнюю Беларусь. Берыеўскія каты адразу распачалі арышт іншадумцаў ды заможных людзей на гэтай тэрыторыі. Завіталі яны і ў дом Станіслава Сэнюха. Падчас ператрусу ў шуфлядзе стала быў знойдзены план моста. Гэтага хапіла, каб арыштаваць чалавека. "Ты маеш план моста цераз Нёман. Добра ведаеш збудаванне і ў любы момант можаш разбурыць яго", - цвердзіў бязглуздзіцу следчы. Станілава Сэнюха абвінавацілі ў падрыхтоўцы дыверсіі і асудзілі. Пакаранне адбываў у адным з канцлагераў Краснаярскага краю. Чалавек не вынес суровых умоў зняволення і неўзабаве памёр. У 1941 годзе сям'я даведалася, што бацькі ўжо няма ў жывых.

Пасля заканчэння вайны сям'я Сэнюхаў выехала на сталае жыццё ў Польшчу.

Чэслаў Сэнюх у прыватнай гутарцы выказваў вялікі смутак, што яму так і не давялося пабачыць мост, які будаваў яго бацька і які стаў прычынай яго смерці.

*Язэп ПАЛУБЯТКА.*

# Уладзімір Макей:

## "Калі хочам захаваць нацыю, трэба больш увагі ўдзяляць беларускай мове"

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей лічыць неабходным папулярызаваць беларускую мову разам з захаваннем расейскай мовы ў якасці другой дзяржаўнай, цытуе міністра БелТА.

Уладзімір Макей адзначыў, што на беларускай мове ў Беларусі гавораць менш людзей, чым на расейскай, і таму беларускай трэба ўдзяляць больш увагі.

- Калі мы хочам захаваць нацыю, народ, дзяржаву, то гэта само сабой разумеецца, - сказаў ён.



Макей падкрэсліў, што гэта не значыць, што расейская мова будзе выцясняцца з нейкіх сфераў і што Беларусь настроена супраць Расеі і расейскага народа.

- У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы - беларуская і расейская, - нагадаў ён. - І расейская другой дзяржаўнай, па-мойму, нідзе ў свеце больш не з’яўляецца.

***Радыё Свабода.***

# За беларускую мову папрасілі

БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ САЮЗ СПАЖЫВЕЦКІХ ТАВАРЫСТВАЎ (БЕЛКААПСАЮЗ)
пр. Пераможцаў, 17, 220004, г. Мінск,
тэл.(017) 2268050, факс (017) 2267342
E-mail:info@bks.by, www.bks.by
р/рBY88AKBB30150025080015600000
ААТ "ААББеларусбанк"AKBBBY21614



БЕЛОРУССКИЙ РЕСПУБЛИКАНСКИЙ СОЮЗ ПОТРЕБИТЕЛЬСКИХ ОБЩЕСТВ (БЕЛКООПСОЮЗ)
пр. Победителей,17, 220004, г. Минск
тел. (017) 2268050, факс (017) 2267342
E-mail: info@bks.by, www.bks.by
р/сBY88AKBB30150025080015600000
ОАО "АСББеларусбанк"AKBBBY21614

09.08.2019 № 09-1-12/138

Старшыні
Грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Анісім А.М.

Аб накіраванні інфармацыі

Паважаная Алена Мікалаеўна!

Белкаапсаюзам разгледжаны Ваш зварот і паведамляем наступнае. У адпаведнасці з п. 4.3. СТБ 1100-2016 інфармацыя для спажыўца ў выглядзе тэксту на харчовую прадукцыю наносіцца на рускай або рускай і беларускай мовах.

У рамках сваёй кампетэнцыі Белкаапсаюз не мае паўнамоцтваў запатрабаваць у вытворцаў пастаўляць прадукцыю з абавязковым нанясеннем на этыкетку інфармацыі на беларускай мове.

Разумеючы важнасць дадзенага пытання Белкаапсаюзам у маі гэтага года у адрас усіх міністэрстваў і ведамстваў, якія маюць у сваім падпарадкаванні вытворчыя прадпрыемствы, якія з'яўляюцца асноўнымі пастаўшчыкамі прадукцыі для арганізацый спажывецкай кааперацыі, накіравана просьба аб нанясенні на спажывецкія тавары інфармацыі для пакупнікоў на беларускай мове.

З павагай,
намеснік старшыні Праўлення Белкаапсаюза В. І. Платонава.

# Вільня рыхтуецца да перапахавання Кастуся Каліноўскага

Вільня рыхтуецца да перапахавання Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання 1863 года. Просьбу беларускіх інтэлектуалаў пра перапахаванне нацыянальнага героя ў Беларусі, урад Літвы не ўхваліў. Прафесар гісторыі Яўген Міранові ч лічыць гэта слушным рашэннем:

- Я супраць таго, каб пераносіць нябожчыкаў з месца на месца. Незалежна ад таго, дзе яны ёсць, дзе былі. Можна паехаць і там ускласці кветкі, калі хтосьці лічыць гэта важным. Нічога не перашкаджае, каб з Беларусі нават тысяча чалавек паехала і там паклалі кветкі.

22 лістапада - афіцыйная цырымонія пахавання астанкаў Кастуся Каліноўскага і яшчэ дваццаці паўстанцаў. Далучацца беларускія грамадскія дзеячы і творчая інтэлігенцыя, а таксама дэлегацыя ад афіцыйнага Менска. Гэта раней пацвердзіў міністр замежных спраў Уладзімір Макей падчас сустрэчы са сваім літоўскім калегам Лінасам Лінкявічусам. Запрасілі таксама дэлегацыі з Украіны, Латвіі.

***Антон Разумоўскі,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*

Цягнікі ў Вільню 22 лістапада будуць хадзіць па раскладзе

Пускаць дадатковыя цягнікі на пахаванне Кастуся Каліноўскага, беларуская чыгунка не плануе. У кантакт-цэнтры беларускай



чыгункі адказалі, што цягнікі 22 лістапада будуць хадзіць у звычайным рэжыме.

"Раніцай, 22 лістапада, у Вільню адпраўляцца два цягнікі з выездам з Менска ў 7.35 і 10.30. Усё па звычайным раскладзе", - распавялі "Нашай Ніве" на чыгунцы.

***nn.by.***

*Навіны Германіі*

# У Германіі тысячы курдаў пратэставалі супраць наступу Турцыі ў Сірыі



Пратэстуючы супраць турэцкага наступу ў Сірыі, тысячы курдаў у суботу, 12 кастрычніка, выйшлі на дэманстрацыі ў розных гарадах Германіі, паведамляе dw.com. У адным толькі Кёльне ў пратэстным маршы ўзялі ўдзел больш за 10 тысяч чалавек, у Франкфурце-на-Майне - 4 тысячы, у Брэмене - каля 2 тысяч. Яны патрабавалі спынення ваеннай апэрацыі на паўночным усходзе Сірыі і асудзілі дзеянні прэзідэнта Турцыі Рэджэпа Таіпа Эрдагана. Дэманстранты прайшлі калонай па вуліцах Кёльна, у руках яны трымалі розныя курдскія сцягі і транспаранты. Натоўп скандаваў "Эрдаган - тэрарыст!" і "Ніякай нямецкай зброі для авантур Эрдагана!". Пратэстны марш прайшоў мірна, за парадкам на месцы дэманстрацыі сачылі каля некалькіх сотак паліцыянтаў. Паліцыянты таксама засцерагалі пратэстоўцаў ад дэманстрацыі сімволікі Рабочай партыі Курдыстана, прызнанай у Еўразвязе тэрарыстычнай арганізацыяй. Масавыя акцыі пратэсту прайшлі таксама ў Францыі. Толькі ў Парыжы на вуліцы выйшла больш 20 тысяч чалавек.

У выніку пратэстаў Германія і Францыя спынілі продаж зброі Турцыі.

У Германіі існуе вялікая курдская грамада, якая налічвае каля 650000 - 800000 чалавек. Курдская грамада ў Германіі працягвае прырастаць у выніку беспарадкаў у Сірыі.

У Германію курдскія рабочыя - іміграннты з Турцыі ўпершыню прыбылі ў другой палове 1960 - х гадоў. Тысячы курдскіх ваенных і палітычных бежанцаў уцяклі з Турцыі ў 1970 - х і пазней, з Ірака і Ірана - у 1980 - х і 1990 - х гадах, а таксама з Сірыі, асабліва ў час сірыйскай грамадзянскай вайны. У кастрычніку 2014 года, 8 жніўня 2015 года, тысячы курдаў у Германіі выступалі супраць турэцкіх паветраных удараў па курдскім цывільным насельніцтве.

***Беларускае Радыё Рацыя.***



№ 42 (1453) 16 КАСТРЫЧНІКА 2019 г. НАША СЛОВА

Віктар Шніп

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## Балады крыві і любові

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

**БАЛАДА РАМУАЛЬДА ЗЯНЬКЕВІЧА
(1.02.1811 - 11.09.1868)**



Сярод начы, як выбух, навальніца.
І ты прачнуўся, каб перахрысціцца,
І, падышоўшы ў цемры да вакна,
Глядзіш у дождж, які нібы сцяна,
Па-за якою курганы Айчыны,
Дзе белыя бярозы і рабіны
Чырвоныя, як нашых продкаў кроў.

Ты па Айчыне сто дарог прайшоў
І песні беларускія збіраў,
Дзе золата палёў, і водар траў,
І пыл дарог, і дым начных кастроў,
І слёзы, і каханне, і любоў…

Зноў гром грыміць, бы коціцца каменне
Разбураных фальваркаў, дзе, як цені,
Паўстанцы Каліноўскага начуюць.
Маланкі неба чорнае лупцуюць,
І рассыпаецца дажджу сцяна.

Айчына сумная, але яна
Адна для ўсіх хто тут жыве і будзе,
Як ты жывеш, ды гром не ўсіх тут будзіць
Сярод начы, сярод Айчыны мілай,
Што хутка стане і тваёй магілай…

*17.08.2010 г.*

**БАЛАДА ТАДЭВУША ЛАДЫ-ЗАБЛОЦКАГА
(27.08.1811 - жнівень 1847)**



...Не любяць вальнадумлівых цары.
І, каб ты мог памерці без пары,
Ты ў Грузіі паслужыш радавым.

Над скаламі туман, аблокі, дым
Плывуць самотна, як і дні плывуць
Праз абгарэлыя кусты, траву
Пад сонцам, як пад царскаю каронай.
І сніцца Беларусь табе зялёнай,
Дзе ля дарог імшэюць валуны,
Дзе нашы горы - нашы курганы,
Дзе косці беларускія ляжаць,
Нібы карэнне - век не скарчаваць -
У нашай пераплецены зямлі.
І, каб не зніклі мы, а тут жылі,
Не толькі трэба родны край любіць:
Калі ўладарыць вораг, трэба біць
Чужынца, бо ён сам табе ніколі
Не дасць жыцця прыгожага і волі...

І пішаш вершы ты аб Беларусі,
Дзе пчолы велізарныя, як гусі
І як арлы, што на вяршынях гор
Гняздзяцца, ахінаючы прастор
Магутным крыллем,
што не знаюць стомы.
Арлы маглі, каб папрасіў, дадому
Цябе занесці. Толькі не папросіш.
З нябёсаў зоркі капаюць, як росы
З высокіх траў, якія дома косіш,
Нібы хлапчук раслрануты і босы,
Бо горача табе... І ты згараеш,
І без пары да Бога адлятаеш...

*16.06.2010 г.*

**БАЛАДА ПАЎЛЮКА БАГРЫМА
(2.11.1812 - 1891)**



У Багрыма ціха ў хаце,
Ды не стаў з нудоты зверам,
Бо ёсць вершы, бо ёсць вера
У Айчыну, што не страціў.
Ёсць яшчэ жаданне волі.
Сам жывы - і дзякуй Богу.
А сябры ляжаць у полі
І не трэба ім нічога.
І не чуюць, як падпанкі
Размаўляюць бізунамі.
Беларусь жа паланянкай
Заліваецца слязамі.
Зноў падняць бы сцяг паўстанца,
Рукі, браце, чуюць сілу.
Чым без мовы заставацца,
Лепш цяпер сысці ў магілу.
Стаў ён песняю народнай,
І душа ўзляцела зоркай…
Мо цяпер які нягоднік
Схоча ачарніць гаворкай:
"Ну які з яго паэта?
Толькі верш адзін пакінуў".
Не, няпраўда, людзі, гэта -
Верш і, як свой крыж, Айчыну.

*25.08.1988 г.*

**БАЛАДА ЯЎСТАФІЯ ТЫШКЕВІЧА
(18.04.1814 - 8.09.1873)**

Устаўшы рана, зноў зямлю капаеш,
Ды ў курганах сівых не скарб шукаеш,
А - Беларусь, што тут была і будзе…



І дзівяцца з цябе, смяюцца людзі,
Бо ты хоць граф, ды нейкі незвычайны -
Палямі ходзіш, берагамі Гайны
І просіш песню праспяваць старую
Ці казку расказаць, і ўсё натуеш,
Збіраеш рэчы для свайго музея…

У Вільню з'едзеш і Лагойск сцішэе,
Нібыта думаць пра цябе ён стане.
А ў родным краі, як пажар, паўстанне
І твой музей - як для пажару вецер…

Яшчэ самотна жыць у гэтым свеце,
Бо твой сусед баіцца, што ты здольны
І без ягонай ласкі жыць прыстойна…

"Музей закрыць!
Забараніць, бо шкодны!" -
Загад вышэйшы. І ты ў краі родным
Жывеш, нібы чужы, людзьмі забыты.
Ды сонца, як тваёй любові зліатак,
Усходзіць над зямлёй, што ты капаў,
Дзе ў курганах сівых не скарб шукаў,
А-Беларусь, якая ёсць і будзе…

*18.04.2009 г.*

**БАЛАДА ФРАНЦІШКА САВІЧА
(1815-1846)**

Першы снег, як чыстая папера,
На якой напішацца крывёй
Шкодны верш пра беглага жаўнера,
Што далёка ад зямлі сваёй
Не забыўся, што такое воля,
Без якой марнеецца душа…
Ты ідзеш, і прад табою поле



Белае, дзе, як глыжы, ляжаць
Чарапы тваіх братоў забітых,
Што шукалі волю і знайшлі
Сонца ў снезе, як крывавы зліатак
Сэрца і любові да зямлі,
На якой з'явіліся аднойчы,
Каб з каленяў свой народ падняць,
І глядзець чужынцам смела ў вочы,
І суседзям, як братам, казаць:
"Мы за нашу й вашую свабоду,
Бо свабодны толькі ў свеце той,
Хто не толькі збавіцца прыгнёту,
А й суседа выведзе з сабой
На шлях вольны…" Прад табой папера,
Быццам снег апошні на шляху тваім.
Ты памёр, ды не памерла вера
У народ, якому ты не стаў чужым…

*29.06.2011 г.*

**БАЛАДА АРЦЁМА ВЯРЫГІ-ДАРЭЎСКАГА
(4.11.1816--1884)**



"З Беларушчынай не развітаўся.
Гэта мой ідэал," - ты пісаў
І праз ночы душою вяртаўся
У той край, дзе раса, як сляза,

У якой патанае былое
І ўсплывае на снезе крывёй
Тых паўстанцаў, што шчасце зямное
Не ўяўлялі без волі і ёй

Аддавалі сябе, як даніну
За адвечную веру, што ў нас
Будзе лепшая ў свеце краіна,
Хоць далёка краіны той час.

І той час сам не прыйдзе ніколі.
Да яго трэба йсці праз вятры,
Праз завеі, праз чорнае поле
І за тры залатыя гары.

І начамі халоднымі ў скрусе
Ты пісаў пра зажураны свет
І цябе, Вайдэлот Беларусі,
Называлі гаротнікі ўсе.

І, калі ў цябе Бог запытаўся:
"Развітаўся з жыццём?" - сказаў ты:
"З Беларушчынай не разбратаўся.
Гэта мой ідэал назаўжды!"

*31.07. 2008 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*



# Грэка-каталіцкі епіскап Галаўня

*Леанід Лаўрэш*

Епіскап Адрыян Галаўня* нарадзіўся 09.04.1750 г. і памёр 01.02.1831 г. Ён быў сведкам падзелаў Рэчы Паспалітай, паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі, руска-французскай вайны 1812 г., судовага працэсу над філаматамі і паўстання 1831 г. Як епіскап, ён з'яўляўся сведкам падзення і аднаўлення ордэна езуітаў, пераследу ўніятаў пры Кацярыне II, новага падзелу ўніяцкіх епархій, ліквідацыі папскага алюміната, пераследу ордэна базыльянаў і мэтанакіраванай дзейнасці Сямашкі па ліквідацыі сваёй царквы. Епіскап браў чынны ўдзел у культурным жыцці грамадства свайго часу, меў дачыненне да дзейнасці Адукацыйнай камісіі і рэарганізацыі Віленскага ўніверсітэта.

Епіскап належаў да старажытнага слонімскага баярскага, а потым шляхецкага рода і меў герб уласнага імя (на чырвоным фоне срэбная літара "Т"). Адна з галін роду асела на Віцебшчыне і прыдбала прыдомак Пышніцкіх ад радавога маёнтка Пышнікі ў Суражскім павеце. Антоні Галаўня (Антоні - імя пры хрышчэнні) нарадзіўся 09.04.1750 г. і атрымаў першапачатковую хатнюю адукацыю. Ва ўзросце 10 гадоў быў аддадзены ў Віцебскую езуіцкую школу, дзе на працягу пяці гадоў вучыў лаціну, арыфметыку, геаграфію, паэзію і красамоўства. Пасля сканчэння школы ён 11.06.1766 г. уступіў у ордэн базыльянаў і пасля адбыцця навіцыяту ў Беразвецкім манастыры, у 17.06.1767 г. прыняў манаскі абет і імя Адрыян. Пасля гэтага для маладога манаха пачаўся перыяд навучання і педагагічнай працы. З 1767 па 1772 гг. ён вывучаў паэзію і красамоўства ў Антопальскім манастыры, а потым філасофію ў Віцебску і Полацку. Пасля заканчэння студыяў адзін год працаваў выкладчыкам лаціны ў Барунскай школе. Пасля Баруну вывучаў тэалогію ў Віленскім папскім алюмінаце і атрымаў навуковую ступень доктара філасофіі ў Віленскім універсітэце[1].

Думаю, трэба трошкі расказаць пра Віленскі папскі алюмінат. Гэта навучальная ўстанова (Папскі алюмінат, ці Папская семінарыя) ў Вільні на Біскупскай вуліцы мела свой дом № 442 і на Лукішках двор з гародам. Заснаваная рымскім папам Рыгорам XIII у 1582 г. семінарыя да 1753 г. займалася адукацыяй клірыкаў рыма- і грэка-католікаў. У 1753 г. папа Бенядзікт IV дазволіў замест рымакатолікаў набіраць уніятаў: мітрапаліту кіеўскаму - 6 вучняў, епіскапу холмскаму і бельскаму - 2, епіскапу ўладзімірскаму і берасцейскаму - 2, архіепіскапу полацкаму - 2 і архіепіскапу смаленскаму - 2. У такім выглядзе семіна-



*Епіскап Адрыян Галаўня*

рыя існавала да 1773 г. У 1773 г., пасля скасавання езуітаў, папа Клімент XIV перадаў семінарыю базыльянам. З-за адсутнасці смаленскага архіепіскапства полацкаму архіепіскапу дазволілі пасылаць у алюмінат 4 клірыкаў. Такім чынам у алюмінаце налічвалася 18 вучняў, 1 рэктар і 3 прафесары, разам - 22 чалавекі. Узровень адукацыі ўзняўся, і выпускнікоў алюміната пераставілі пасылаць давучвацца ў Віленскую акадэмію - усе неабходныя навукі выкладаліся ў самой семінарыі[2].

Папа Пій VI павялічыў колькасць вучняў семінарыі на 3 чалавекі і для кампенсацыі выдаткаў на навучанне дадатковых клірыкаў праз свайго нунцыя паклаў у Варшаўскі банк Тэпера капітал у 60000 злотых. Частка працэнтаў з гэтай сумы ў памеры 2 100 злотых штогод ішла на ўтрыманне трох вучняў. У 1793 г. з-за агульнага стану ў Рэчы Паспалітай банк Тэпера збанкрутаваў, і семінарыя страціла гэтыя даходы.

Аднак галоўнай крыніцай утрымання алюміната была штогадовая сума якую ён атрымліваў з Рыма ў памеры 13 800 злотых. У канцы XVIII ст. гэтыя грошы з-за цяжкасці пераводу вексаляў, сталі паступаць нерэгулярна і алюмінат мог з цяжкасцю ўтрымліваць толькі 12 вучняў.

У алюмінаце існаваў наступны звычай. Кандыдаты, якіх прысылаў епіскап, павінны былі мець узрост не менш за 16 гадоў, быць нежанатымі, добра ведаць латынь, мець добрыя паводзіны. Прынятыя на вучобу першыя 2 гады вучылі філасофію і тэалогію, а ў наступныя 4 гады засвойвалі дагматычную і маральную тэалогію, кананічнае права і царкоўную гісторыю. Усе 6 гадоў вучні прак-тыкаваліся ў рыторыцы і вучылі асновы матэматыкі.

Навучэнцы алюміната штогод здавалі экзамены ўсім прафесарам. Пры заканчэнні 6-цігадовага курсу выпускнікі здавалі экзамены па тэалогіі. Экзаменатары прадстаўлялі рэктару свае меркаванні пра кожнага вучня, і той дасылаў у епархію выпускніка сваё меркаванне пра здольнасці вучня алюміната.

У канцы XVIII ст., калі наш край патрапіў у Расійскую імперыю, сродкі, якія дасылаліся Рымам, паменшыліся да такой ступені, што трэба было ці зачыняць алюмінат, ці ствараць новую вучэльню на новай матэрыяльнай базе. Рэктар семінарыі Пасхазі Ляшчынскі прапанаваў на базе папскай стварыць епархіяльную семінарыю з такой колькасцю вучняў, на якую будуць грошы[3]. Дзеля эканоміі грошай ён прапанаваў перанесці алюмінат у Жыровічы - мястэчка, дзе жыццё значна таннейшае за віленскае і ёсць неабходныя памяшканні. Пры гэтым рэктар прапаноўваў знізіць патрабаванні да паступаючых на вучобу і не патрабаваць добрага ведання латыні, а галоўнае, каб вучні мелі здольнасці да навук. Аднак семінарыя ў Жыровічах адчыніцца толькі ў 1828 г. па загаду Іосіфа Сямашкі і галоўнай яе мэтай будзе - рыхтаваць кадры для скасавання уніі[4].

З-за недахопу грошай Віленскі алюмінат перастаў існаваць у ліпені 1798 г.[5]

Будучы епіскап Андрыян Галаўня ў Віленскім папскім алюмінаце "ўдасканальваўся ў навуках" з 1773 па 1776 г. З 1776 па 1778 гг. Галаўня працаваў прафесарам у базыльянскіх гімназіях у Беразвеччы, Жыровічах і Віцебску. У 1788 г. стаў епархіяльным сакратаром і спавядальнікам мітрапаліта Растоцкага[6]. У 1792 г. дэкрэтам караля Станіслава Аўгуста быў прызначаны каад'ютарам Браслаўскай архімандрыі[7], а ў 1793 г. атрымаў пасаду браслаўскага архімандрыта. У 1809 г. стаў дапаможным епіскапам Літоўска-віленскай мітраполіі.

1809 г. стаў вельмі істотным для спраў грэка-каталіцкай царквы - была адноўлена Віленская мітраполія. Справа ў тым, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Кіеўская мітраполія, якая дэ факта была Віленскай, перастала існаваць. Мітрапаліт Растоцкі (памёр у 1805 г.) быў апошнім кіеўскім мітрапалітам. Узнаўленне Віленскай мітраполіі і смерць мітрапаліта Лісоўскага высунула Галаўню на ролю фактычнага кіраўніка Віленскай епархіі, бо мітрапаліт грэкакаталіцкай царквы павінен быў жыць у Пецярбургу.

Літоўская мітрапольная епархія месцілася на тэрыторыі Віленскай, Курляндскай і часткі Менскай губерняў (з Менскай - Дзісненскі, Вілейскі, Барысаўскі, Менскі, Ігуменскі і Бабруйскі паветы). Разам епархія налічвала 300 уніяцкіх цэркваў, але была вельмі небагатай. Біскуп не меў нават сваёй кафедры, бо ў выніку абстрэлу Вільні рускімі войскамі ў 1794 г. была зруйнавана мітрапольная царква Прачыстай Багародзіцы, зруйнаваныя муры царквы ў 1808 г. прададзены ўніверсітэту. Зруйнаваны быў таксама палац мітрапаліта, які знаходзіўся недалёка ад царквы Прачыстай Багародзіцы. Епіскап Андрыян Галаўня жыў у Базыльянскім манастыры, тут жа знаходзілася і кансісторыя. У якасці кафедральнай выкарыстоўвалася царква Св. Тройцы.

08.01.1811 г. Адрыян Галаўня мітрапалітам Кахановічам і лацінскім біскупам Адынцом быў кансэкраваны на аршанскага епіскапа. Епіскап Галаўня, добра разумеючы, што бызыльянскі ордэн неабходны для існавання ўніяцкай царквы, усімі магчымымі сродкамі бараніў яго. Разам з мітрапалітам Булгакам ён у 1819 г. дабіўся адмены ўведзенай у 1810 г. забароны рыма-каталікам уступаць у ордэн, але ўжо ў 1822 г. забарона была адноўлена ўладамі[8].



*Пячатка мітрапаліта Галаўні*

У 1812 г. епіскап Галаўня дзейна выступіў за адраджэнне ВКЛ. Ва ўрадзе ВКЛ, адноўленым Напалеонам ён працаваў у Камітэце Адукацыі і Духоўных спраў[9]. Тым цікавей было тое, што ў сувязі з перамогай над французамі, епіскап быў узнагароджаны рускім ордэнам Св. Уладзіміра. Але вайна паменшыла даходы Галаўні ад фундушовых сум, размешчаных у Браслаўскім манастыры, бо на яго палях дзевяць дзён стаялі войскі маршала Нея, разарыўшы такім чынам гаспадарку.

Другая частка жыцця епіскапа Галаўні прыйшлася на часы, калі Сямашка пачаў выконваць узгоднены з уладамі план ліквідацыі царквы. Згодна з планам Сямашкі, складзеным у 1827 г. і ўхваленым царом Мікалаем І, пачыналася паступовая ліквідацыя грэка-каталіцкай царквы. Царскі ўказ ад 22 красавіка 1828 г. ліквідаваў дзве з чатырох уніяцкія епархіі, рэарганізоўваў капітулы, падпарадкаваў базыльянскі ордэн уладзе епіскапа, забараніў уніятам вучыцца ў Віленскай Галоўнай Семінарыі пры ўніверсітэце. З Берасцейскай, Полацкай, Віленскай і Луцкай епархій засталіся толькі Берасцейская і Полацкая. Епіскап Галаўня, хоць і быў у той час ужо старым чалавекам, як мог супрацьстаяў планам ліквідацыі сваёй царквы. Таму быў адпраўлены ў адпачынак і з гэтага моманту жыў у віленскіх базыльянаў, назіраючы апошнія тры гады свайго жыцця за дзейнасцю адступнікаў.

Пра епіскапа Галаўню Сямашка адзываўся з максімальнай непрыязнасцю і злосцю, што само па сабе можа разглядацца як камплімент. Сямашка пісаў: епіскап меў слабы характар і не цікавіў яго як праціўнік[10]. Сэнс словаў "слабы характар" раскрывае адмірал Аляксандр Шышкоў, міністр асветы, які ў мемарыяле ад 17.01.1828 г., напісаным для цара, гэтак адазваўся пра епіскапа Галаўню: *"Мітрапаліт не мае на так званую мітрапольную епархію непасрэднага ўплыву. Епархія знаходзіцца пад кіраўніцтвам суфрагана Галаўні ... . Гэты епіскап-вікарый не стаў на ўзровень свайго чыну і лічыцца за аднаго з самых "неаблагонадежных" з уніяцкіх епіскапаў"*. Такім чынам, епіскап меў слабы характар, бо дзеля кар'еры Сямашкі не жадаў смерці сваёй царквы.

1 лютага 1831 г. сівы епіскап ціха памёр. Асабістыя рэчы і 3 000 рублёў серабром, згодна з тастамантам, напісаным яшчэ ў 1814 г., перайшлі сынам яго брата Іосіфа, былога падкаморага, уладальнікам маёнтка Пышнікі.

Магіла епіскапа знаходзілася ў падземеллі капліцы на Бернардынскіх могілках. На магіле мелася памятная пліта з гербам яго шляхецкага роду і надпісам: *"Тут знаходзяцца парэшткі Дабраславёнай Памяці Епіскапа Грэка-ўніяцкага, Архімандрыта Браслаўскага, па хрышчэнні Антонія, а ў ордане АДРЫЯНА ПЫШНІЦКАГА ГАЛАЎНІ. Мужа вядомага сваёй пабожнасцю ..."*.

З часам магіла епіскапа прыйшла ў запусценне, але ў першай палове XX ст. яе знайшоў і ўратаваў знаны аматар нашай гісторыі, інжынер, палітык-краёвец (у 1915 г. нават быў прадстаўніком ад беларусаў у Грамадзянскім камітэце Вільні) Аляксандр Заштаўт. Ён занатаваў: *"... удалося нам адшукаць на па-бернардынскіх могілках магільную пліту ўніяцкага епіскапа Андрыяна Галаўні, пастаці ў дзеях сваёй царквы незабыўнай, ён быў епіскапам ... з 1809 па 1828 гг. Гэта пліта была нядаўна знойдзена ў катакомбе пад могілкавай капліцай. Яна была апраўленая ў драўляную раму але час і вільгаць знішчылі дрэва - пліта ўпала і была прыгавораная да забыцця ..."*. Магільная пліта патрапіла ў музей Віленскага таварыства аматараў навук і ў 1939 г. яшчэ знаходзілася ў музейных зборах. Да сярэдзіны XX ст. згадванне магілы ўніяцкага епіскапа знікла з віленскіх турыстычных даведнікаў пры тым, што на пачатку стагоддзя інфармацыя пра яе яшчэ падавалася[11]. Тым карысней для нас успомніць аднаго з нашых апошніх грэка-каталіцкіх епіскапаў XIX ст.

* Польскае напісанне прозвішча **Holownia** беларускія навукоўцы чамусьці перадаюць як **Галаўня** ў той час, як на Нясвіжчыне простыя людзі гэтае прозвішча вымаўляюць і пішуць як **Галоўня** (шляхочы род **Галоўні-Чорныя**) *(рэд.)*.

[1] Charkiewicz Walerian. Biskup unicki Adrian Holownia // Wilno. Kwartalnik poswiecony sprawom miasta Wilna. 1939. № 2. S. 120-122.

[2] Хлебцевич И. А. Иосафат Жарский, провинциал Литовских базилианских монастырей, впоследствии епископ Пинский. Гродно. 1897. С. 9-11.

[3] Charkiewicz Walerian. Ostatnie lata Alumnatu Papieskiego w Wilnie // Ateneum Wile?skie. 1929. R. 6. Z. 1-2. S. 112-118.

[4] Хлебцевич И. А. Иосафат Жарский, провинциал Литовских базилианских монастырей, впоследствии епископ Пинский. С. 14.

[5] Там жа. С. 63.

[6] АУМ. Т. 2. С. 692.

[7] Там жа. С. 487.

[8] Charkiewicz Walerian. Biskup unicki Adrian Holownia. S. 123-124.

[9] Сборник Императорского Русского исторического общества. Т. 128. Петербург, 1909. С. 142.

[10] Charkiewicz Walerian. Biskup unicki Adrian Holownia. S. 124-125.

[11] Там жа. С. 126.





# Фарбы восені ў Магілёве

На пачатку верасня 2019 г. у выставачнай зале пры Музеі гісторыі Магілёва адкрылася экспазіцыя "Фарбы восені", дзе прад-





стаўлены творы Магілёўскай абласной арганізацыі ГА "Саюза мастакоў Беларусі". На выставе - жывапіс і кераміка.

26 верасня наша грамада вырашыла паглядзець на творы мастацтва, і не проста паглядзець, але мы яшчэ і запрасілі "экскурсаводамі" вядомых магілёўскіх мастакоў Юрыя Несцерука і Барыса Первунінскіх. І правільна зрабілі, што запрасілі саміх мастакоў, бо пачулі цікавы расповед як пра вядомых, масцітых творцаў, так і пра маладых пачаткоўцаў, якія працуюць у розных жанрах. З сумам і пяшчотай агледзелі некалькі акварэляў Фёдара Кісялёва, прыгадаўшы цёплыя сустрэчы з гэтым мастаком. Прымусіла нас затрымацца і ўважліва прыглядзецца карціна "Беларусь партызанская" Базыля Камарова. Бо на першы погляд зразумелы сюжэт аказаўся не такім ужо і простым. Пра мастака Уладзіміра Шпартава змястоўна распавёў спадар Барыс, які добра ведаў творцу.

Карціны і інсталяцыі выклікалі шмат пытанняў і эмоцый у наведвальнікаў. Але нашым "гідам" удалося ў даступнай форме расказаць і давесці аб мастацкіх асаблівасцях скульптара Андрэя Вараб'ёва і мастака Аляксандра Суворава, Святланы Строгінай і Уладзіміра Конанава. Сапраўдным адкрыццём для нас сталі новыя імёны з арыгінальнымі творамі. Экскурсія па выставе аказалася незвычайнай, нешта накшталт мастацтвазнаўчай размовы. Ягчэ раз вялікі дзякуй шаноўным мастакам Юрыю Несцеруку і Барысу Первунінскіх.

*Алег Дзьячкоў.*
*Верасень 2019 г.,*
*Магілёў.*

## На дзень народзінаў паэта Максіма Танка - сустрэча каля танка

У нядзелю 29 верасня ТБМаўцы Магілёва адклалі свае справы і накіраваліся на вуліцу Якубоўскага, дзе ўсталяваны танк часоў апошняй вайны. Верасень завяршаўся, а мы яшчэ не ўшанавалі нашага Народнага паэта Максіма Танка і таму вырашылі хаця б напрыканцы месяца зладзіць невялікае мерапрыемства. А з нядаўняга часу ў нас узнікла такая завядзёнка, што паколькі помніка паэту ў Магілёве няма, то збіраемся мы каля баявога танка Т-34, бо Максім Танк быў франтавіком, і сапраўды баявым і мужным чалавек.





Напачатку імпрэзы ўзгадалі цікавыя старонкі з жыцця і творчасці паэта. Прыгадалі таксама, як мы грамадою ў 2012 годзе на 100-годдзе наведалі радзіму пісьменніка ў Нарачанскім краі вёску Пількаўшчыну, дзе сустрэліся з яго сваякамі. Казалі пра тое, што Максім Танк дасягнуў вялікіх вяршыняў як у творчай, так і грамадска-палітычнай дзейнасці: стаў народным паэтам, быў Старшынём Вярхоўнага савета БССР, Героем сацыялістычнай працы, старшынём праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У той жа час, заставаўся вельмі простым, даступным і прыстойным чалавекам. Многім стараўся пры магчымасці дапамагчы і падтрымаць. Пасля біяграфічнай даведкі прысутныя чыталі любімыя творы пісьменніка: Надзея Лук'янава - верш "Ганна", Таццяна Зыкунова на памяць прачытала лірычны верш "Лісце каштанаў", затым выступілі Давід Атрошкін і паэтка Таццяна Ба-рысік. Таццяна Ложачкіна раздру-кавала для ўсіх прысутных невялікі, але вельмі пранікнёны верш "Шчасце"

*Простае шчасце людское,*
*Так як і наша з табою,*
*Пэўна, складаецца з солі,*
*З хлеба, сабранага ў полі,*
*З поту, дарожнага пылу,*
*З роднага небасхілу,*
*З дружбы, мацнейшай ад смерці,*
*З песні... І так мне здаецца:*
*Каб з чаго іншага скласці,*
*Дык ці было б яно шчасцем.*

Напрыканцы мы ўзгадалі песні на вершы Максіма Танка і ўключылі запіс "Завушніц" у выкананні "Песняроў". Акрамя таго, Уладзімір Пухоўскі прыгадаў, што ёсць яшчэ песні на творы пісьменніка і што варта іх у наступны раз адшукаць. Нашы дзяўчаты прынеслі прыгожыя асеннія кветкі, якія мы ўсклалі каля партрэта Народнага паэта Максіма Танка. Зараз магілёўцы рыхтуюць імпрэзу да дня народзінаў Ніла Гілевіча.

*Алег Дзьячкоў.*
*Кастрычнік 2019 г.*
*Фота: Марына Храмцова.*
*Магілёў.*

*Не ад Эзопа, а ад Язэпа*

### Аб праўдзе ўсё па-праўдзе

Сведка пакляўся на Бібліі "казаць праўду і толькі праўду" і тымі словамі схлусіў.

Самая праўдзівая праўда ў чыноўнікаў.

Ад п'янай праўды сінякі пад вачыма.

Не блытай сваю праўду з маёй.

Праўда адна ды ў кожнага розная.

Праўдаю сыты не будзеш.

Ад праўды нідзе не схаваешся.

Ад тваёй праўды ні горача ні холадна.

Каб ты жыў з тою праўдаю.

Калі паўстане тая праўда?

- Пішы, кажы сваю праўду - наша праўда праўдзівейшая, - адказаў чыноўнік наведвальніку.

Праўда ў праўдзе - а суддзі хто?

Хочаш сапраўднай праўды, запытай ва Усявышняга, ці быў справядлівы ў Садоме і хто адкажа за Гамору?

Праўда, як справядлівасць - у кожнага свая.

Зараз "Праўду" за тры капейкі не купіш.

* * *

Каханне не вечнае, нянавісць - так.

Ашуканства бывае двух відаў: ці ты абдурыш іх, ці яны цябе.

Смерці без жыцця не бывае.

Лекі ад безнадзейнасці - самагубства і гарэлка.

Смерць нічога не мяняе, акрамя таго, што душы надае свабоду, целу - тло.

Усё ў жыцці натуральна: адзін п'е, другі гуляе, трэці крадзе, чацвёрты ўсё тое спалучае разам.

*Язэп Палубятка.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:* 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 14.10.2019 г. у 17.00. Замова № 2449.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,37 руб., 3 мес.- 7,11 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.